



# ТАЦЬЦЯНА МАЛІНОЎСКАЯ ЛЮБІЦЬ ТЭАТР, МАСТАЦТВА І ЖАДАЕ БАЧЫЦЬ БАЦЬКАЎШЧЫНУ КВІТНЕЮЧАЙ

**"Палітыка - не жаночая справа. Але... Пяць гадоў цвет мужчынскай паловы Беларусі прамаўляў прыгожыя словы пра згоду і здраджваў інтарэсы Бацькаўшчыны і яе народа, за што ва ўсім свеце мужчыны і гатовы аддаць жыццё... Жанчыне прыйшлося сам на сам адстойваць свае інтарэсы і інтарэсы сям'і, дома, блізкіх, зрэшты, і Бацькаўшчыны. У гэтых умовах беларуска здабыла надзвычайную віртуознасць і вынаходлівасць у збалансаваньні штодня скудзеючага сямейнага бюджэту і шматгадзінных перамовах у кабінетах чыноўнікаў усіх узроўняў. Мужчыны прымусілі нас стаць эканамістамі і палітыкамі".**

Так пачалася мая размова са спадарыняй Тацьцянай Маліноўскай - дэпутатам Гарадзенскага гарсавета, выкладчыкам кафедры беларускай культуры Гарадзенскага універсітэта, кіраўніцай Гарадзенскай абласной філіі Фонда імя Л.Сапегі, зрэшты, проста цікавай жанчынай. Ад партыі БНФ яна вылучалася кандыдатам у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, але саступіла сваю акругу на карысьць кандыдата ад БСДГ, саюзьніка па дэмакратычнаму блоку.

**- Спадарыня Тацьцяна, Вы зьнялі сваю кандыдатуру, ці можа гэта азначаць, што Вы адыходзіце ад палітыкі?**

- Натуральна, не. Не прыйшоў яшчэ час, не хапае людзей, якія маглі б адстойваць нашы інтарэсы.

**- Калі так, тады як Вы будзеце рэалізоўваць сябе як палітыка?**

- Буду балатавацца ў гарадзкі Савет. Маю вопыт стажам у пяць гадоў як дэпутат і вось ужо тры гады працую ў Фоньдзе Л.Сапегі, дзе займаюся арганізацыйнай і асьветніцкай працай па праблемах мясцовага самакіраваньня, сама вучуся менеджменту ў мясцовым самакіраваньні. Лічу, што толькі рэфармаваўшы ўсю сістэму самакіраваньня можна ператварыць дэпутата з "вясельнага генерала", якім ён зараз зьяўляецца ў мясцовых саветах, у асобу, здольную вырашаць штодзённыя праблемы.

**- Некалькі слоў біяграфіі, калі ласка.**

- Нарадзілася ў 1953 годзе ў Горадні, скончыла ў Горадні гістарычны факультэт у 1975 годзе, выйшла замуж за гарадзенскага хлопца, калегу па факультэце, у Горадні нарадзіла дачку, у Горадні спадзяюся быць пахаванай, ага... вось толькі аспірантуру скончыла ў Менску пры кафедры тэорыі і гісторыі мастацтва тэатральна-мастацкага інтстытута. Працавала ў музеі, у рэстаўрацыі.

**- Жанчына-палітык - гэта абавязкі, шмат працы, мала вольнага часу. Што застаецца ў Вас для сям'і?**

- Да бялючага мала часу. Мая сям'я і дом - найвялікшая радасьць. Муж і дачка - найлепшыя сябры, памагатыя, дарадцы. З мужам я агавораваю ўсе свае праблемы і атрымоўваю слушныя парады. Дачка яшчэ школьніцай уваходзіла ў маю каманду падчас выбараў 1990 года. Зараз яна студэнтка факультэта беларускай філалогіі і культуры. Ёсьць яшчэ сябры і шмат цікавых людзей навокал.



**- Ваша хобі?**

- Люблю плаваньне ў возеры, а зімой - у басейне; кветкі, асабліва радуюся першым вясновым: пралескам, сцілам, мускары, крокусам. Люблю старажытную беларускую музыку і беларускія абразы, шпацыры ўздоўж Нёмана, сучасную беларускую паэзію, уражваюць і зьдзіўляюць зусім маладыя: С.Адамовіч, Ю.Гуманюк, А.Брусевіч. Нагул, прабачце за таўталогію і жаночасць, але люблю любіць жыццё, сьвет, людзей і, з асаблівай сентыментальнасьцю, Горадню.

**- Чаго баіцца палітык і жанчына Маліноўская?**

- Неразумных людзей.

**- Ваша найвялікшае жаданьне?**

- Убачыць Беларусь квітнеючай, а яе народ шчасьлівым, добразычлівым, годным сваёй Бацькаўшчыны.

Распытваў Г.АСТРОЎСКІ.

# ЦЭНТРВЫБАРКАМ Б'Е ТРЫВОГУ

**Як паведаміў старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Беларусі спадар А.Абрамовіч, Кабінет Міністраў дагэтуль не выканаў рашэньня Вярхоўнага Савету і не пералічыў Цэнтрвыбаркаму сродкі, неабходныя для правядзеньня парламенцкіх выбараў. У сувязі з гэтым А.Абрамовіч мае намер у самы блізкі час зьвярнуцца да ўраду з лістом, мэтай якога зьяўляецца жаданьне зрабіць напамін ураду аб яго абавязку фінансаваньня арганізацыі выбараў.**

Сродкі патрэбны ўжо зараз, каб выплаціць заробак членам рэгіянальных выбарчых камісій. У красавіку, пасьля афіцыйнай рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты, яны спатрэбяцца для правядзеньня перадвыбарчых кампаній. Яшчэ спадар Абрамовіч заўважыў, што Цэнтрвыбаркам зэканоміў нейкую колькасьць сродкаў, атрыманых ім для правядзеньня прэзідэнцкіх выбараў, дзякуючы чаму змог падрыхтаваць частку неабходных бланкаў для парламенцкіх выбараў. Калі Савет Міністраў не адрэагуе належна на ліст старшыні Цэнтрвыбаркаму, то старшыня абавязкова зьвернецца з запытам да Вярхоўнага Савету.

# КДБ МОЖА ЗАСТАЦЦА БЕЗ СТАРШЫНІ

**Як стала вядома, дзесятага сакавіка старшыня КДБ Уладзімір Ягораў паведаміў прэзідэнту А.Лукашэнка аб намеры вылучыць сваю кандыдатуру на будучых парламенцкіх выбарах. Прэс-служба КДБ пакуль што не змагла падцьвердзіць гэтую інфармацыю.**

Згодна з дзеючым заканадаўствам, у выпадку рэгістрацыі Ягорава ў якасьці кандыдата ён не зможа падчас выбарчай кампаніі выконваць абавязкі старшыні КДБ. Хутчэй за ўсё, кіраваць спецслужбай будзе адзін з яго намесьнікаў. Найбольш верагодна, што гэта будзе Валеры Кез.

# СІЛАВЫЯ СТРУКТУРЫ ТАКСАМА РЫХТУЮЦЦА ДА ВЫБАРАЎ

У Берасьці прайшла рэгіянальная нарада праваахоўных органаў, скліканая па ініцыятыве кіраўніка мясцовай "вертыкалі" У.Заламая. Удзел у ёй прынялі дзяржсакратар Савета бясьпекі В.Шэйман, намесьнік кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта М.Сазонаў, першы намесьнік старшыні КДБ В.Кез, намесьнік генеральнага пракурора І.Сашчэка, намесьнік міністра ўнутраных спраў Ю.Тарабрын, старшыня Мытнага камітэта П.Крэчка.

Асноўным вынікам нарады стала рашэньне аб стварэньні ў Берасьцейскай вобласьці Савета па аб'яднаньню намаганьняў праваахоўных органаў і выканаўчай улады па навядзеньню парадка. Закранаючы тэму выбараў, В.Шэйман заявіў, што факты выкарыстаньня кандыдатамі незаконных крыніц фінансаваньня будуць дасьціпна адсьлежвацца, а кандыдатуры парушальнікаў - здымацца.

# ЁСЬЦЬ ПЕРШЫЯ ПАЦЯРПЕЛЫЯ Ў ПЕРАДВЫБАРЧАЙ КАМПАНІІ

Пачатак перадвыбарчай куампаніі ў Віцебску азнаменаваўся затрыманьнем і дастаўкай на пастарунак сяброў Рады "Выбар БНФ "Адраджэньне" Барыса Хамайды і Уладзіміра Плешчанка, якія зьбіралі подпісы грамадзян для вылучэньня сваіх кандыдатур у дэпутаты Вярхоўнага Савету. Праз тры гадзіны высьветлілася, што спадары Хамайда і Плешчанка дзейнічалі ў адпаведнасьці з Законам аб выбарах. Затрыманыя былі адпушчаны з пастарунка.

# БЗВ ПАДТРЫМАЕ КАНДЫДАТАЎ-ПАТРЫЁТАЎ

У Рагачове створана мясцовая арганізацыя Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў. Яе старшынёй стаў рабочы аўтапрадпрыемства горада, прапаршчык запасу Валеры Баравец. На сёньняшні дзень гэта шостая ў Гомельскай вобласьці суполка БЗВ.

Прыярытэтным накірункам у дзейнасьці новай арганізацыі на бліжэйшыя два месяцы стане падтрымка дэмакратычна настроеных кандыдатаў у дэпутаты.

# ГІСТОРЫЯ ПАЎТАРАЕЦЦА

З 10 сакавіка ўпраўленьне грамадзка-палітычнай інфармацыі адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі ўзначаліў У.Замяталін. У 1994 годзе ён прапрацаваў пяць месяцаў прэс-сакратаром прэм'ер-міністра В.Кебіча, а да гэтага ўзначальваў прэс-службу Міністэрства абароны.

У.Замяталін вядомы сваімі заявамі аб "иностранных спецслужбах, действующих против молодого белорусского государства", а таксама рэзкімі выпадкамі падчас перадвыбарчай кампаніі ў адрас А.Лукашэнка.

Цікава, што на пасаду прэс-сакратара В.Кебіча, Замяталін быў назначаны таксама ў сакавіку мінулага года, а ўжо ў ліпені быў вымушаны пайсьці ў адстаўку пасьля сакрушальнага паражэньня на выбарах свайго патрона, не ў апошнюю чаргу абумоўленага правалам яго прапагандысцкай кампаніі.

СІМ

ДАЛЁКАЕ - БЛІЗКАЕ

# "ПАЧЫНАЮЦЬ У НАС ЛЮДЗІ ГАВАРЫЦЬ А ВЫБАРАХ..."

**Ці не праўда, фраза, вынесеная ў загаловак, актуальная для нашага часу? А між тым, ёй ужо восемдзесят восем гадоў. Так-так, не зьдзіўляйцеся, зараз растлумачу.**

Мінулай восеньню мая хатняя бібліятэка папоўнілася цікавай кнігай - факсімільным выданьнем "Наша Ніва" выпуску 1906-1908 гадоў. "Наша Ніва" - першая беларуская газета з малюнкамі, якая друкавалася ў Вільні, выходзіла раз у тыдзень. Першы нумар газеты выйшаў 10/23 лістапада 1906 года.

"Наша Ніва" будзе другой беларускай газетай, - сказана ў звароце да чытачоў. - Першая газета "Наша доля" не жывець: яна была надта нядоўга, блiснула, як маланка, і загінула дзесьці. Разумеем мы, як важна цяпер беларуская газета, разумеем, якую вялікую работу яна можа зрабіць. І дзеля таго мы будзем старацца, каб наша газетка заглянула ўсюды..."

Невялікія, зьместоўныя, натхнёныя, часта іранічныя артыкулы, інфармацыі, фельетоны, вершы, апавяданьні, дасланыя аўтарамі ў рэдакцыю "Нашай Нівы" з розных губерній і паветаў, даюць магчымасьць даведацца пра жыцьцё беларусаў на пачатку дваццатага стагоддзя. Дзіўна, але многія праблемы таго часу характэрны і для нашага.

Заметка ў нумары "Нашай Нівы" за 6 студзеня 1907 года таму яскравае сьведчаньне.

Прывяду яе цалкам, захоўваючы арфаграфію, тым больш, што інфармацыя датычыцца нашых мясцін.

*"З Васялишэк Виленской губэрни Лидскаго павету. Пачынаюць у нас людзи гаварыць а выбарах у новую Думу. Цяпер идзе скрось гутарка аб тым, ци пасылаць ад воласьци да Лиды старых выбаршчыкоў, ци новых. Адны кажуць: раз пасылали - пашлем и други раз тых самых: яны ўжо езьдзили, то и прахтыку маюць. Другие зноў кажуць: кали пашлем старых выбаршчыкоў, то яны ізноў старых дэпутатоў выбяруць у Думу. А быў у Думи з нашага Лидзкага павету Гатавецки, ды тольки з яго пацехи было, што на пекным крэсли ў Думе сядзеў ды й пенсии па дзесяць рублёў у дзень браў, - а як трэба было гаварыць, то маўчаў, як немка. Не, нам не таки патрэбны: нехай будзе чалавек сьмелы, нехай будзе язычливы, каб патрапиў за бедны народ заступицца! Нам не патрэбны пански служка - не патрэбны и земскаго ци станавога лякай, нам патрэбны ў Думе чалавек, што не прадасць нас - народ працавиты - ни за панскую гарбату и ласкавае панскае слова, ни са страху палиции ды кутузки. И стыд навэт падумаць: з других старон дэпутаты ў Думи сьмела дабивалися для народу свету, свабоды, зямли-матки. И не тольки их палиция за их шчырае сэрцэ для народу. А нашы - што? Ци паказвали яны ўсяму свету нашу бяду? Не! Ци гаварыли яны сьмела праўду ў вочы чыноўникам? Не! А цяпер ци не жывуць сами без страху пад ласкавым на их вокам палиции? Жывуць!*

*Кали так, то нема што и выбираць старых у Думу. Выбирайце ж, браты, новых и шчырых людзей у уезд, новых у Вильню - у Думу!*

*Ясь."*

Пэўна, не шкодзіць да пераканаўчых парад прыслухацца і сучасным выбаршчыкам.

А.ЗАПОЛЬСКАЯ.

**Шаноўнае спадарства!**



Даводзім да Вашага ведама, што на паседжаньнях Каардынацыйнай Рады БЗВ ніякія "ультыматумы"(Гл. "Пагоню" N9) не прымаліся, не абмяркоўваліся, як не плануецца гэта рабіць і ў далейшым.

Просім давесьці гэтую інфармацыю да чытачоў Вашай газеты.

М.АХРЫМУК,
Сакратар Каардынацыйнай Рады БЗВ.

# ГРАМАДЗТВА

## ЧАМУ БЕЛАРУС НЕ ГАСПАДАР НА СВАЁЙ ЗЯМЛІ?

**Надакучыла слухаць міфы аб нашым шматвекавым агульным мінулым з рускімі. Што гэта не так, сьведчыць і гісторыя Горадні, дзе зараз шмат рускіх, прысланых у свой час для замацаваньня надзейнымі людзьмі заходніх межаў СССР. Гэта былі "надзейныя" людзі для партыйнай наменклатуры, ідэйна загартаваныя, але не меўшыя аніякіх адносін да народа, сярод якога яны жылі, да тых, для кага Беларусь - маці-Радзіма і другой радзімы ў іх няма, не тое што для інтэрнацыяналістаў, якіх засылалі сюды ды ў Прыбалтыку, Галіцыю з Прыўральля ці Сібіры. У нас другой радзімы няма, а ў іх ёсьць! Але ж яны не хочуць жыць сярод нас, як госьці на нашай зямлі, яны па-ранейшаму хочуць у нас гаспадарыць і кіраваць, загадваць і прымушаць. На жаль, наш прэзідэнт лічыць іх больш блізкімі, больш зразумелымі для сябе, бо ён з імі працаваў ў пагранічных палітаддзелах, дзе яны і выхоўвалі такіх вось "янычараў", больш адданых захопнікам, чым свайму народу,больш паважаючых чужую мову, чым сваю.**

Нядаўна па радыё была перадача аб творчасьці нейкага паэта (прозьвішча не пачуў). І вось адзін беларус, мабыць гарадзенец, запытаў у яго, а чаму ён, ураджэнец Горадні, гаворыць па-руску і што ён зрабіў для духоўнага адраджэньня Беларусі. І тады вядучыя Менскага радыё залепаталі, што гэта ўжо палітыка, а іх перадача не палітычная. Хацелася б у тых кабет спытаць: а Пушкін быў палітыкам, ці не? А гэта ж ён змагаўся за ўжываньне расейскай мовы ў вышэйшым сьвеце Расейскай імперыі, дзе тады панавала мова французская. І ён ведаў яе, часам пісаў на ёй артыкулы, вершы, але прапагандаваў менавіта мову народа, сярод якога жыў, хаця вядома, што Расея не была Радзімаю яго продкаў. Дык чаму пытаньне да паэта аб тым, чаму ён не карыстаецца роднай мовай на радыёперадачы, якая вялася не з Масквы, а са сталіцы незалежнай Беларусі, зьяўляецца палітыкай? Прычым, становішча рускай мовы ў Маскве ці Санкт-Пецярбургу на той час было лепшым, чым беларускай сёньня, у нас. Бо французская мова выкарыстоўвалася выключна ў так званым "высшем обществе", а просты люд не ведаў руска-французскай "трасянкі"! Да таго ж, дзяржаўныя акты, загады, пастановы пісаліся на дзяржаўнай рускай мове. Дзяржава была рускай і мова дзяржаўная - руская, якой не хацелі карыстацца ў салонах знаці. І тады ніхто не здагадаўся назначыць рэферэндум з пытаньнем: ці мець адну дзяржаўную мову, ці дзьве. Дык чаму зараз, будучы гасьцямі нашай зямлі, рускія падводзяць сябе так нахабна, патрабуючы для сябе больш правоў, чым мае карэннае насельніцтва, чым мае, нарэшце, нацыянальная меншасьць заходняга суседа, асеўшая тут на некалькі стагоддзяў раней, чым "рускія браты"? Рускіх падтрымлівае не толькі Ельцын ды Козыраў, іх падтрымлівае і прэзідэнт незалежнай Беларусі, які так і не ведае, кім ён нарадзіўся на памежжы Беларусі і Расеі. Лукашэнка не ўпэўнены, што ён беларус. Гэта ж відаць па яго паводзінах, бо ён не падмацоўвае сваім аўтарытэтам нічога нацыянальнага. А на людзях ён кажа, што нарадзіўся "такой вот беларус" на памежжы Беларусі з Расеяй.

Я не зусім упэўнены ў тым, што "Лукашенко - это всерьёз и надолго". Бо ён вядзе да супрацьстаяньня ў грамадзтве, натраўлівае меншасьць на большасьць па пытаньнях, якія павінны вырашаць толькі гаспадары гэтай зямлі, а не госьці на ёй, якія маюць зусім іншую гістарычную Радзіму. Ну а чым канчаецца супрацьстаяньне ў Маскве мы добра бачым па сёньняшніх перадачах тэлебачаньня "Астанкіна". Нехта ж марыць, каб такое было і ў нас.

3-га ліпеня 1994 года камсамольцы і камуністы з дапамогаю ачмураных ветэранаў гатовыя былі пачаць бойку ля помніка Перамогі з тымі, хто не лічыць чырвона-зялёны сьцяг БССР родным для сябе. Гэта была толькі спроба сіл пры падтрымцы беларуска-польскага камуніста Францевіча (у якога бацька быў Франак). А рэферэндум прывядзе да расколу грамадзтва ўвогуле. І на саюз з Расеяю далёка не ўсе глядзяць вачыма "такого вот белоруса, родившегося на пограничье Белоруссии и России". А тое, што савецкая "капуста" ў якасьці нацыянальнага сімвала аніяк не адпавядала менталітэту нашай нацыі, бо нам непатрэбны ўвесь зямны шар, а што гербы з выявай Пагоні мелі многія беларускія гарады, аб гэтым ведае значна больш народу, чым 4-5 год таму.

На жаль, газеты мала зьмяшчаюць ілюстрацый з выявай Пагоні. Паглядзіце, як камуністы выкарыстоўваюць здымкі часоў акупацыі, дзе людзі нясуць партрэты Гітлера і побач бел-чырвона-белыя сьцягі! А дзе здымкі, ці малюнкі часоў БНР, дзе сімволіка тая ж? Пісаць аб гэтым мы пішам, але ж не паказваем! А да пісанага зараз давер значна меншы, чым 75-77 гадоў таму. А камуністы метадычна, прычым не адно дзесяцігоддзе ўдоўбліваюць у галовы простых людзей, што гэта фашысцкая сімволіка, яе "дараваў" нам Кубэ, і пацьвярджаюць гэта здымкамі з запаснікоў музея Вялікай Айчыннай вайны.

Я часта куплю газеткі "Товарищ", "Мы и время" і бачу, як выкарыстоўваецца камуністамі "наглядная агітацыя", а газеты дэмакратычнага накірунку дзейнічаюць так, быццам усё дарослае насельніцтва з дзяцінства і на працягу 5-6 гадоў вывучала гісторыю Беларусі. Між іншым, у трыццатыя гады на кінастудыі "Беларусьфільм" была зьнята кінастужка аб гісторыі камсамольцаў у беларускай гімназіі ў Заходняй Беларусі. Дык там, задоўга да нямецкай акупацыі, гімназісты насілі на галаўных уборах значкі з Пагоняю. І гэта ў савецкім кінафільме! Вось бы паказаць яго перад прэзідэнцкім рэферэндумам. Я памятаю, як мяне ўразіла тое, што ў савецкім фільме было паказана, што беларускія гімназісты насілі не польскіх арлоў, а крывіцкую Пагоню. І гэта даказвае, што Пагоню "дараваў нам" не гаўляйтар Кубэ, а значна раней БНР. Вось контрпрапаганда для аматараў сьцяга былой БССР.

**Аляксандр БАХАНЧЫК**
**м. Гарадзея**

## УЛАДЫ ПАТУРАЮЦЬ ЗЛАЧЫННАСЬЦІ

Узровень злачыннасьці ў Лідзе нашмат вышэйшы, чым у іншых гарадах Гарадзенскай вобласьці. Спектр злачынстваў поўны: ад дарожна-транспартных здарэньняў да гвалту, рабунку і забойстваў. Гэта хвалюе ўсіх, але толькі не ўлады. Так, яшчэ ў верасьні 1994 года Лідзкая рада БНФ выйшла з хадайніцтвам на імя начальніка міліцыі з прапановай арганізацыі Дружын рэгіянальнай аховы і бясьпекі (ДРАБ), прапанаваўшы некалькі соцень маладых хлопцаў для патруляваньня горада і іншых аперацый. І? І атрымала адмову. Чаму? Справа ў тым, што значную частку злачынстваў зьдзяйсьняюць самі міліцыянты. І, калі няма нікога чужога, гэта схаваць прасьцей простага, а калі побач будуць драбы БНФ, гэта зрабіць будзе цяжка.

Другога сакавіка сябра рады БНФ Яўген Куроўскі паспрабаваў падняць гэтае пытаньне на сесіі гарсавета, але яму не далі слова. Відавочна, дэпутатаў задавальняе такое становішча, пры якім рабуюць, гвалцяць і забіваюць. Яны пра гэта нават слухаць не жадаюць.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

## ДА ВЫБАРАЎ ГАТОВЫЯ, ДА ПРЫВАТЫЗАЦЫІ – ТАКСАМА

**У Горадні адбылася нечарговая сесія абласнога Савета дэпутатаў 21 скліканьня. Пытаньне аб колькасьці выбарчых акруг па выбарах дэпутатаў абласнога Савета 22 скліканьня, якія адбудуцца 11 чэрвеня бягучага года, было асноўным.**

Прэзідыум аблсавета прапанаваў утварыць дзевяноста акруг, тады як у цяперашні склад Савета дэпутаты абіраліся па дзьвюхстах (у сярэднім на кожную прыпадае 9.800 чалавек). Такую ж колькасьць акруг, па словах намесьніка старшыні абласнога Савета І.Машко, ствараюць на Берасьцейшчыне. Найбольшая колькасьць выбаршчыкаў будзе ў дзьвюх акругах Астравецкага раёна - у сярэднім 11.093, найменшая - у дзьвюх акругах Берастаўіцкага - у сярэднім 7.959. Увогуле ж колькасьць выбаршчыкаў у акругах вобласьці вагаецца ад васьмі да дзесяці з паловай тысяч. Тлумачыцца гэта тым, што прэзідыум аблсавета палічыў немэтазгодным далучаць некалькі населеных пунктаў аднаго раёна да выбарчай акругі другога, як гэта зроблена для выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Дэпутаты аднагалосна прагаласавалі па гэтаму пытаньню.

Разглядалася таксама пытаньне аб парадку распараджэньня аблвыканкамам камунальнай уласнасьцю. Прадугледжвалася надзяліць выканкам правам ажыцьцяўляць усе аперацыі па распараджэньню камунальнай уласнасьцю абласнога ўзроўню. Частка дэпутатаў выказала нязгоду з гэтым. Была зроблена, у прыватнасьці, прапанова не вырашаць гэтае пытаньне, пакуль усе пастаянныя камісіі Савета не разгледзяць яго і не выкажуць свае думкі, а лепей пакінуць яго на вырашэньне новаму складу Савета. Але ж рашэньне было прынята і па гэтаму пытаньню.

Сесія зацьвердзіла яшчэ і праграму прыватызацыі аб'ектаў камунальнай уласнасьці абласнога ўзроўню кіраваньня на бягучы год. Яна прадугледжвае разьдзяржаўленьне, ў першую чаргу, прадпрыемстваў гандлю, грамадзкага харчаваньня, бытавога абслугоўваньня і тыя, якія перапрацоўваюць сельскагаспадарчую прадукцыю і абслугоўваюць сельскую гаспадарку, а таксама прадпрыемствы, работа якіх неэфектыўна і якія ў найбольшай ступені ўзьдзейнічаюць на фарміраваньне рынкавых структур. Асноўнымі спосабамі прыватызацыі стануць пераўтварэньне дзяржаўных і арэндных прадпрыемстваў у адкрытыя акцыянерныя таварыствы, выкуп арэндным прадпрыемствам арэндаванай маёмасьці.

Упершыню ў праграме прадугледжваецца магчымасьць набыцьця праз конкурс ці аўкцыён права арэнды будынкаў, памяшканьняў, збудаваньняў тэрмінам да 5 гадоў.

**А.ДУК.**

## КНІГА МІНУЛАГА

**У вайсковых бібліятэках МА РБ зьявілася першая частка "Очерков военной истории Беларуси", выдадзеных "Управлением воспитательной работы и информации МО РБ" і "Объединением "Исторические знания" организации ветеранов РБ".**

Кніжку гэтую напісалі сумнавядомыя "спецыялісты" па нашай гісторыі, былыя савецкія партызаны ды адстаўнікі: прафесар А.Залескі, генерал-маёр у адстаўцы А.Капылоў, капітан першага рангу ў адстаўцы В.Мазуркевіч (рэцэнзент - праф.А.Жураўскі). Выконваючы невядома чыю замову, аўтары падрыхтавалі "падарунак" вайскоўцам беларускай арміі... Аб сутнасьці гэтай брашуры гавораць самі аўтары: "В первой части очерков военной истории Беларуси показано, что общими предками белорусов, великоросов и украинцев были восточные славяне и древнерусское Киевское государство, что белорусская народность формировалась на территории ВКЛ в условиях неравноправной федерации, а в Речи Посполитой Беларусь оказалась в полуколониальной зависимости от польско-шляхетских угнетателей". Каментары тут будуць залішнімі.

Застаецца толькі дадаць, што кніжка была выдадзена вельмі аператыўна, пры ўдзеле выдавецтва газеты "Рэспубліка", наклад у 15 тысяч паасобнікаў, канешне, не зможа канкураваць з сотнямі тысяч паасобнікаў патрыятычных кніжак па беларускай гісторыі, што былі выдадзены за апошнія гады. Аднак, можна меркаваць, што гэта першая ластаўка, запушчаная міністэрствам абароны (плануецца выдаць яшчэ чатыры часткі "Очерков"). Ужо сёньня зампаліты, узброеныя гэтаю брашуркаю, растлумачваюць жаўнерам, што беларусы акрамя БССР ніколі не мелі сваёй дзяржаўнасьці і што "Расея-матухна" заўсёды бараніла нас ад "драпежных палякаў ды літоўцаў". Вось гэтак прапаводзіцца ў беларускай арміі "патрыятычнае выхаваньне". Радуе адно: хлопцы, паслухаўшы паважаных прамоўцаў, ідуць у бібліятэку ды чытаюць чамусьці не брашурку Залескага і іншых, а кнігу Генадзя Сагановіча "Айчыну сваю баронячы". Жаўнеры-беларусы зрабілі выбар?!

**Я.В.,**
**г.Баранавічы.**

## АМАТАРЫ ПТУШАК ПАШЫРАЮЦЬ ДЗЕЙНАСЬЦЬ

Сябры Заходнебеларускага таварыства аховы птушак правялі ў Горадні свой нечарговы зьезд. А выклікана гэта тым, што новы Закон "Аб грамадзкіх аб'яднаньнях" патрабуе перарэгістрацыі ўсіх грамадзкіх арганізацый.

Істотнай зьменай у Статуце ЗБТАП стала тое, што цяпер яно будзе распаўсюджваць сваю дзейнасьць не толькі на Гарадзенскую і Берасьцейскую вобласьці, але і на Віцебшчыну.

Удзельнікі зьезду зацьвердзілі праграму на гэты год, якая ўключае працяг працы над стварэньнем "Атласа ахоўваемых птушак Гарадзеншчыны".

**М.МАЦЯВІЦКІ.**

## ДЗЯРЖЧЫНОЎНІКАЎ – ДА АДКАЗНАСЬЦІ!

Старшыня парламенцкай камісіі па культуры і захаваньню гістарычнай спадчыны Ніл Гілевіч зьвярнуўся да Генеральнага пракурора рэспублікі з прапановай разгледзець пытаньне аб магчымасьці прыцягваць да адміністратыўнай адказнасьці дзяржчыноўнікаў, якія не выконваюць закон "Аб дзяржаўнай мове". Калі рэспубліканская пракуратура падтрымае ідэю народнага дэпутата, то дзяржаўныя служачыя, што не карыстаюцца ў афіцыйных стасунках беларускай мовай і не вядуць на ёй дакументацыю, будуць несьці рэальную адказнасьць за ігнараваньне закону.

## ТЫМ, ХТО ПАГАСІЎ АБЛІГАЦЫІ, НЕ ДАПАМОЖА І КАНСТЫТУЦЫЙНЫ СУД

Старшыня парламенцкай камісіі па прамысловасьці Уладзімір Новік намераны ініцыяваць разгледжаньне Канстытуцыйным судом (КС) справы аб прызнаньні незаконнымі ўрадавыя пастановы аб пагашэньні аблігацый Дзяржаўнага мэтавага займу. Гэтыя каштоўныя паперы былі выпушчаныя ў абарот у 1990 годзе для набыцьця грамадзянамі тавараў працяглага карыстаньня. Аднак беларускі ўрад не выканаў сваіх абяцанак і наўзамен легкавікоў, лядоўняў, тэлевізараў і іншай бытавой тэхнікі прапанаваў утрымальнікам аблігацый толькі маленькую суму кампенсацыі. Праўда, не ўсе грамадзяне, набыўшыя аблігацыі, пагадзіліся пагасіць іх. Каля трохсот уладальнікаў акцый і зараз жадаюць атрымаць абяцаныя тавары. Менавіта іх інтарэсы паспрабуе абараніць на судзе У.Новік.

Дарэчы, тым, хто пагасіў свае аблігацыі, не дапаможа нават КС. Аднак, на думку спадара Новіка, калі КС прызнае дзеяньні ўраду незаконнымі, то на ўсіх без выключэньня ўладальнікаў аблігацый зьявіцца магчымасьць атрымаць хоць якія тавары альбо грашовы эквівалент.

Усе патрэбныя дакументы У.Новікам ужо падрыхтаваны, праз некалькі дзён ён пачне зьбіраць дэпутацкія подпісы, неабходныя для таго, каб КС прыняў справу да разгледжаньня.

## ВЕКСЕЛІ «ЦЬВЕРУНІВЕРСАЛБАНКУ» ВЫПУСКАЮЦЦА ТОЛЬКІ ДЛЯ БЕЛАРУСІ

На запыт карэспандэнта - пракаментаваць ход перамоў аб выдзяленьні Беларусі крэдыту векселямі на 100 мільёнаў долараў ад "Цьверуніверсалбанку" - віцэ-прэм'ер Уладзімір Гаркун заявіў, што беларускі ўрад выступае толькі арганізаторам зьдзелкі, не назваўшы пры гэтым прадстаўніка беларускага боку.

Пасьля журналісцкага рассьледаваньня стала вядома, што з хадайніцтвам аб арганізацыі крэдыту для закупкі мінеральных угнаеньняў у Расеі выступіў Віктар Кучынскі. Аднак пакуль што дамоўленасьць не дасягнута. Расея патрабуе, каб выдзеленыя векселі забясьпечваліся ўласнасьцю беларускіх прадпрыемстваў. Беларусь, у сваю чаргу, патрабуе забясьпячэньня руху векселяў на тэрыторыі Расеі.

Старшыня праўленьня Нацыянальнага банка С.Багданкевіч падцьвердзіў, што памочнік прэзідэнта па асобых даручэньнях В.Кучынскі зьвяртаўся да яго з просьбай аб садзеяньні ў выдзяленьні крэдыту векселямі ад "Цьверуніверсалбанка". "Аднак маёй згоды на садзеяньне не атрымаў", - заявіў ён.

Міністр зьнешніх эканамічных сувязяў Беларусі М.Марыніч паведаміў, што гэтая зьдзелка з банкам замарожана, не назваўшы пры гэтым прычыны прыпыненьня перагавораў.

Ёсьць інфармацыя, што гэтай прычынай стала нежаданьне беларускага боку забясьпечваць векселі беларускай уласнасьцю, а таксама нежаданьне Цэнтрабанка Расеі забясьпечваць хаджэньне векселяў на тэрыторыі Расеі.

**СІМ**

## ЛУНА ЧАКАЕ АРЛА

**Другога сакавіка гэтага года на сесіі Луненскага Савета па ініцыятыве жыхароў вул.Леніна было вернута ранейшае найменьне Гарадзенская. Так называлі гэтую вуліцу нашы бацькі ды дзяды.**

На жаль, у Луне засталося шмат назваў вуліцаў чужых, безсэнсоўных: Камсамольская, Савецкая, Кірава, Лібкнехта. Цікава, што ні Кіраў, ні Лібкнехт ніколі ў Луне не былі, не чулі пра яе, не ўспаміналі.

А вось таленавіты беларускі паэт М.Арол, які ў 1910-1912 гадах працаваў настаўнікам у недалёкай ад Луны Струзе, напісаў пра Луну артыкул, які быў апублікаваны ў 19-20 нумарах газеты "Наша Ніва" 23 траўня 1912 года. Гэты артыкул таксама друкаваўся ў ягоным зборніку "Лірнік" на стар. 148-150.

У сваім артыкуле М.Арол апісвае пажар, што бушаваў у Луне 25 красавіка 1912 года. Тут жа паэт малюе Нёман, і ягоны бераг, і луненскі веснавы кірмашовы дзень. Вялікія кірмашы тут адбываліся першага і дванаццатага кожнага месяца.

М.Арол цікава апісвае дзейнасьць фірмы "Бераг", што існавала ў Луне. Мае прадзед Міхась і дзядуля Кастусь з в.Радзівонаўцы, якую зараз чамусьці называюць Падбаранамі, кожную раніцу ішлі ў "Бераг", каб там будаваць зрубы хатаў, якія потым купцы прадавалі ў навакольныя вёскі. "Бераг" даваў працу сотням людзей, бо тут ставілі не толькі зрубы, але і рабілі баты (баркі). Для мяне артыкул М.Арла надзвычай цікавы, бо ў ім удакладняецца тое, пра што ў дзяцінстве апавядалі бабуля, матуля. Часта "Бераг" успаміналі маміны браты Яўген ды Кастусь, якія яшчэ ў дзяцінстве са сваім татам, а маім дзядуляй, хадзілі ў "Бераг" стаўляць зрубы, там сталі выдатнымі майстрамі і пабудавалі для жыхароў навакольных вёсак сотні хат, што яшчэ доўга будуць стаяць і напамінаць людзям пра таленавітых цесьляроў.

Варта было б адну з вуліц, па якіх так часта хадзіў М.Арол, пра якія ён пісаў, якія апяваў, назваць імем гэтага таленавітага беларускага патрыёта.

Даруйце, калі ласка, што я ўсюды пішу Луна з адным -н-. Падоўжанае -нн- нам даўно ўсваталі акупанты. Цяпер нават нашу мясцовую назву сталі лічыць іншамоўным словам. Гэтага тапоніму многія не скланяюць. А мясцовыя людзі ў нас кажуць: "Каля Луны, за Луну".

**Алесь БЕЛАКОЗ,**
**в.Гудзевічы.**

 







# СУМЕЖЖА

## ПЫЛ У ВОЧЫ

Паважаная рэдакцыя, я вадзіцель з 20-гадовым стажам. Большую частку сваёй прафесійнай дзейнасьці прайшоў у якасьці вадзіцеля-міжнародніка. Асноўная частка маіх цяперашніх маршрутаў пралягае праз усходнюю мяжу нашай дзяржавы. Часам, на мытні Ліозна ці Дуброўна, што знаходзяцца на беларуска-расейскім памежжы, даводзіцца прастойваць па трое і болей сутак. Праўда, нашу беларускую мытню перасякаць вельмі проста, Расейскую - вельмі складана. Увогуле, першымі мытні распачалі будаваць расейцы. Навезьлі вагончыкаў і распачалі зьбіраць мытны падатак. Дзякуючы іх намаганьням чэргі на грузавых пераездах вышэй памянутых памежных кропак сягалі, ды й зараз сягаюць да дзесяці кіламетраў.

Мноства дзён, што прастаяў без сну на мытнях успамінаецца з жахам. Таму, беларуска-расейскія дамовы аб адзінай мытнай прасторы ўспрыняў як выратаваньне ад пакут. На жаль, мае спадзеўкі не спраўдзіліся. Наадварот, зараз яшчэ складаней перасекчы мяжу. Усё засталося як і было, мыта за траньзіт, мыта за экалогію, мыта за перавозку груза. Да таго ж, пасьля сумнавядомых пагадненьняў аб мытным саюзе дадаліся іншыя патрабаваньні. Расейскія памежнікі і мытнікі патрабуюць сертыфікаты і шмат чаго іншага, што раней можна было за невялікую плату зрабіць прама на мытні. Зараз гэтыя правілы скасаваныя і тыя, хто яшчэ аб гэтым не ведае, павінны вяртаць свае фуры назад да дому, каб выканаць на месцы нейкую мытную дробязь. На мой вопыт вадзіцеля здаецца, што гэта робіцца наўмысна. Чэргі, якія расьцягнуліся на многія кіламетры, таксама наўмысныя. Не было ж іх, калі Смаленскую частку расейска-беларускай мяжы прыяжджаў правяраць міністр памежных войск Расеі. Міністэрская праверка цягнулася тры дні і ніякіх чэргаў і ў паміне тут не было. Ад'ехаў міністр - тое ж самае ізноў. Зараз, калі чую пыхлівыя заявы па тэлевізары аб посьпехах нашага прэзідэнта ў добраўпарадкаваньні беларуска-расейскіх стасункаў, ёсьць жаданьне ўзяць кувалду і пабіць тэлевізар. Не ведаю, ці дапаможа гэты мой учынак справе, але да прэзідэнта нашай дзяржавы маю просьбу: Аляксандр Рыгоравіч, не пускайце пыл у вочы, бо мы, простыя людзі, на ўласнай скуры адчуваем "выгоды" вашых посьпехаў у дыпламатыі з Расеяй. Хопіць слоў, абяцанкаў. Зрабіце што-небудзь добрае, а то - Расея, братэрская любоў, сяброўства, адзіная мытная прастора, а на паверку - пшык.

**Лявон УРБАШЭВІЧ,**
**г.Горадня.**

## МОСТ ДЗЬВЮХ КУЛЬТУР

З мінулага году чытачы берасьцейскай абласной бібліятэкі імя Горкага стала чытаюць сьвежую польскую прэсу - каля 20 найменьняў газет і столькі ж часопісаў. Гэта газеты "Палітыка", "Лад", "Агульны штотыднёвік", "Тыдзень", "Навіны культуры", "Весткі". Сярод часопісаў найбольш папулярныя "Сьвет навукі", "Агляд", "Сьвет жанчын", "Жанчына і жыцьцё", "101 перадача жанчыне", "Брава", "Філіпінка", "Літаратурныя сшыткі". З гэтага году пачалі пастyпаць сатырычны "Шпількі", "Дыялогі", "Сампэт"...

Зразумела, што валюты на падпіску замежнага перыядычнага друку ў бібліятэкі няма. Такую магчымасьць яны маюць дзякуючы апантана зацікаўленым сваёй справай Гжэгожу Міхайлоўскаму - загадчыку аддзела бібліяграфіі і краязнаўства ваяводзкай і гарадзкой публічнай бібліятэкі і яго сябру Гжэгожу Собаце - кіраўніку аддзела прадпрыемства "Рух" з Бялай Падляскі.

Сьвежую прэсу дастаўляюць вадзіцелі польскіх рэйсавых аўтобусаў, на зваротным шляху перадаюцца беларускія і расейскія перыядычныя выданьні.

Супрацоўніцтва калег пачалося больш шасьці гадоў назад з часу наведваньня польскай дэлегацыяй калег з Берасьця. "У нас было і ёсьць нямала агульных інтарэсаў, пытаньняў для абмеркаваньня і накірункаў для супрацоўніцтва", - гаворыць намесьнік дырэктара абласной бібліятэкі Тамара Паўлаўна Муха. У выніку такога супрацоўніцтва краязнаўчы аддзел папоўніўся матэрыяламі па гісторыі берасьцейскага краю, Беларусі - больш 20 папак з выразкамі і ксеракапіраваньнямі, сотнямі кніг, сярод якіх мноства ўнікальных: факсімільнае выданьне ў 15 тамах "Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага" - 1880-1902 г.г. Па гэтых жа каналах у Берасьце духоўны сан, айцец Ежы Цыган - манах, прафесар перадаў у падарунак дзьве даволі рэдкія кнігі: працу Пацыфіка Дыдзіча "З падляскай зямлі прызваны...", выдадзеную на беларускай мове ў Ватыкане, а другая кніжка - "Праваслаўная царква ў Польшчы ў старажытнасьці і сёньня", выдадзеная накладам у адну тысячу паасобнікаў статысячным упраўленьнем Варшаўскай праваслаўнай мітраполіі, лічыцца рэдкай і ў Польшчы.

Гжэгожа Міхайлоўскага добра ведаюць бібліятэкары нашых раённых і гарадзкіх філіялаў і Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь. У сябе ў горадзе ён уваходзіць у лік 32 найбольш паважаных суграмадзян, абраных дэпутатамі ў гарадзкі Сейм, а з пачатку студзеня г.г. ён стаў сакратаром рэдакцыйнай калегіі "Падляскага культурнага штоквартальніка".

**Л.ЯСЕНЬ.**

# ЛЕТУВА

## БЯСЬПЕКА ВАЧЫМА В.ЛАНДЗБЕРГІСА

В.Ландзбергіс падтрымлівае думку, выказаную прэзідэнтам А.Бразаўскасам у гадавым дакладзе: неабходна лепей падрыхтавацца да магчымых пераменаў у Расеі, аб якіх недвусэнсоўна папярпэджвае разьвіцьцё падзей у Чачні. "Прэзідэнт прызнаў, што Летува павінна быць гатовая да аналагічных выпрабаваньняў", - сказаў В.Ландзбергіс. На яго думку, зараз трэба адказаць на пытаньне, як лепш да гэтага падрыхтавацца.

Па словах лідэра правай апазіцыі, ёсьць два варыянты: альбо мець стратэгічныя і тактычныя планы абароны, узбраеньне, альбо не мець нічога і "запасацца мылам". "Да гэтага часу ўлады, камітэт Сейма па нацыянальнай бясьпецы і ўрад арыентаваліся на "мыльны" варыянт, бо за мінулы год летувіская армія нічога не набыла, ды і дыслакавана не там, дзе павінна быць дыслакавана", - заявіў В.Ландзбергіс.

В.Ландзбергіс закрануў праблему набыцьця зброі. Па яго дадзеных, Эстонія адразу закупала заходнюю. На думку лідэра правай апазіцыі, і Летуве трэба было б зьвярнуць увагу на рашэньне афіцыйных колаў ЗША аб продажы зброі краінам Усходняй Эўропы. "Напэўна, невыпадкова Расея адразу зрабіла крок у адказ, прапанаваўшы Латвіі сваю зброю. Няма сумненьняў, што Расея будзе прапаноўваць дзяржавам Балтыі дагаворы аб ваенным супрацоўніцтве. Не ведаю, чаму аддасьць перавагу Летува, але да гэтага часу яе пакідалі перад адзіным выбарам - заставацца бяззбройнай", - сказаў В.Ландзбергіс. Па яго словах, прадпрыемства "Віціс", на якім можна было вырабляць зброю, ліквідавалі наўмысна.

"У апазіцыі заўсёды бывлі сумненьні: ці не схавана ў дагаворах Летувы з краінамі СНД, якія прадугледжваюць адмову ад уступленьня ў варожыя арганізацыі, небясьпечная інтэрпрэтацыя: напрыклад, НАТА аб'явяць варожай арганізацыяй, а Летува між тым ужо ўзяла на сябе абавязкі, скажам, перад Казахстанам. Зараз высьвятляецца, што апазіцыя мела рацыю", - сьцьвярджае яе лідэр.

**LR**

## У ЛЕТУВЕ ВЫПУШЧАНА НОВАЯ МАНЕТА

Па рашэньню Летувіскага банку ў гонар 5-й гадавіны са дня незалежнасьці Летувы выпушчана пяць тысяч юбілейных манет наміналам 50 літаў. Новая манета выраблена на Летувіскім манетным двары з срэбра вышэйшай 925-й пробы.

На аверсе манеты - дубовая галінка, надпіс "Valstybes Atgimimas", лічбы "1990" і "1995". На рэверсе - герб Летувіскай Рэспублікі, слова "Lietuva" і ўказаньне намінала манеты - 50 літаў. На рабры манеты - надпіс на летувіскай мове "Няхай любоў да Летувы гарыць у вашых сэрцах".

**ЭЛЬТА**

## ГАЗЕТЫ БУДУЦЬ ПРЫВАТЫЗАВАНЫ

У пачатку сакавіка летувіскі ўрад адобрыў прыватызацыю дзьвюх стратных газет, фінансуемых з бюджэту рускамоўнай "Эхо Литвы" і польскамоўнай "Кур'ер Віленскі". Яны павінны быць прададзены за, так званыя, інвестыцыйныя чэкі, якія былі выдадзены насельніцтву некалькі год таму, на пачатковай стадыі прыватызацыі дзяржаўнай уласнасьці.

І "Эхо Литвы", і "Кур'ер Віленскі" былі газетамі камуністычнай партыі да аднаўленьня незалежнасьці Летувы ў 1990 годзе.

## ЛЕТУВІСКІХ ПАЛІЦЭЙСКІХ ЗАТРЫМАЛІ ПАМЕЖНІКІ

Як стала вядома, трое служачых летувіскай паліцыі затрыманы памежнікамі ў раёне Ашмян. Яны трапілі на беларускую тэрыторыю, не маючы віз. У затрыманых знойдзена каля пяці тысяч долараў. Пакуль невядома, якое рашэньне прымуць у адносінах да іх беларускія ўлады.

**СІМ**

## ГАЛОЎНЫ АРГУМЕНТ - ГАРМАТЫ

### ІНТЭРВ'Ю З Я.АНЫШКЕВІЧАМ

**Чачэнская вайна, апошняе паседжаньне СНД у Алма-Аце, шэраг візітаў расейскіх палітыкаў на чале з Барысам Ельцыным ў Менск, сьведчаць пра пэўныя тэндэнцыі. Пракаментаваць іх мы папрасілі былога мінстра абароны Польшчы ва ўрадзе Ганны Сухоцкай сп.Януша Анышкевіча.**

- Прыгаданыя вамі тэндэнцыі азначаюць вяртаньне Расеі да гэтак званага "аб'ядноўваньня" усіх земляў, ну можа за выключэньнем краін Прыбалтыкі. Арганізоўваецца структура, па характары сваім набліжаная да СССР, у якой Расея, магчыма, не будзе дамінаваць. Вось вы казалі пра Чачню. Зьвярніце ўвагу на стыль дзеяньняў. Гэта тыповы імперскі стыль, стыль, дзе гавораць гарматы, а не палітыкі. Усё гэта сьведчыць пра тое, што мёртвая да нядаўняга часу структура СНД пачынае ажываць. Вымалёўваецца нешта рэальнае.

**- Расею падтрымліваюць Беларусь ды Казахстан...**

- Так. Былыя савецкія рэспублікі адчуваюць прысутнасьць Расеі, але іх пастaвы неадназначныя. З аднаго боку яны імкнуцца вырашаць свае ўнутраныя праблемы, у тым ліку і эканамічныя, бачачы ратунак у больш шчыльнай інтэграцыі з Расейскай Федэрацыяй, але з другога боку не хочуць страціць сваёй, з многіх пунктаў гледжаньня, ілюзорнай незалежнасьці. Але так ці інакш, лепей быць прэзідэнтам дзяржавы, статус суверэннасьці якой пацьвярджаецца адно на паперы, чым губернатарам правінцыі ў вялікай імперыі. Невядома, якая з падставаў пераможа. Здавалася б, што для Расеі галоўнае цяпер - адбудаваць уласную эканоміку, правесьці рэформы, і менавіта ў сувязі з гэтым рэакцыя на прапанову ўвядзеньня валютнай вуніі з Беларусьсю не заўжды была станоўчай. Расейцы спалохаліся, што кошт такой аперацыі будзе занадта высокі, бо беларуская інфляцыя сталася б яшчэ адной праблемай Расеі. Аднак апошнім часам расейцы прыслухоўваюцца да голасу палітыкі, а не эканомікі. Паглядзім, якой будзе рэакцыя іншых членаў СНД, ці будуць яны гатовы.

**- Здаецца, што найбольшую гатоўнасьць да шчыльных сувязяў з Масквой праяўляе Рэспубліка Беларусь. У лютым Менск наведалі найвышэйшыя кіраўнікі Расейскай Федэрацыі, былі падпісаныя паагадненьні, пераважна вайсковыя, а прэзідэнт Лукашэнка загадаў свайму войску спыніць выкананьне дамоўленасьці пра зьнішчэньне канвенцыянальнай зброі ў Эўропе. Калі гэта азначае, што Беларусь хоча абмежаваць свае стасункі з Захадам і пашырыць з Расеяй, то якой павінна быць рэакцыя Польшчы?**

- Апошнім часам беларускі бок зьмяніў аргументы. Прэзідэнт Лукашэнка вырашыў паўстрымаць зьнішчэньне зброі, бо ён лічыць, што ў сувязі з распадам двухбаковай сістэмы бясьпекі, сітуацыя Беларусі пагоршылася, і таму перспектыва пашырэньня НАТА на Усход успрымаецца ім як небясьпека. Я не магу гэтага зразумець. Беларусь значна меншая за Польшчу, а ліміт зброі мае значна большы. Кошты ўтрыманьня зброі заўжды значныя, і я не ведаю, як Беларусь зьбіраецца ажыцьцявіць задуманае. Цяпер Аляксандр Лукашэнка сьцьвердзіў, што Беларусь не мае грошай на раззбраеньне. Дзе логіка? Калі б гэткае рашэньне прыняла толькі Беларусь,то нічога страшнага не было б, але і расейскі бок усё часьцей пачынае гаварыць пра тое, што дамоўленасьць трэба разгледзець яшчэ раз. Вось што трэба заўважыць. Калі цяпер расхістаць маладое дрэўца дамоваў, то можна вырваць яго з каранямі. Падпісаныя дамовы значна абмежавалі колькасьць узбраеньняў паасобных дзяржаваў Эўропы - каб не было магчымасьці буйнамаштабных атакаў. Так што сітуацыя Польшчы была б вельмі складанай.

**- Як вы думаеце, ці заходнія структуры ўсьведамляюць сабе магчымую небясьпеку за ўсходняй мяжой Польшчы?**

- Думаю, што так. Тое, што мы бачым сёньня, выразна сьведчыць пра безпадстаўнасьць выказваньняў наконт падзелу, які, нібыта, стварыў умовы для пашырэньне НАТА на Усход. Не толькі эканамічныя, але і мілітарныя структуры СНД самі правялі лінію па Бугу. У рамках гэтых структураў існуе гэтак званы ташкенцкі пакт, да якога далучылася і Беларусь, у якім гарантыі ўзаемнай бясьпекі дзяржаваў значна меншыя, чым у выпадку НАТА, альбо Заходнеэўрапейскай Вуніі. У гэтым пакце прадбачваецца існаваньне супольных узброеных сілаў ды супольнага кіраваньня імі. З юрыдычнага пункту гледжаньня гэта нешта большае, чым былая Варшаўская дамова. І нешта падобнае знаходзіцца за ўсходняй мяжой Польшчы. НАТА ўжо не мае сумневу, ці прымаць у саюз Польшчу. Цяпер пытаньне стаіць інакш: як і калі.

**Марцін СІМЯЛОЎСКІ.**

# УКРАІНА

Пасьля трох дзён перагавораў у Кіеве паміж прадстаўнікамі "вялікай сямёркі" і ўкраінскімі афіцыйнымі асобамі аб будучым Чарнобыльскай АЭС, Украіна па-ранейшаму адмаўляецца закрыць станцыю.

Прадстаўнікі краін "вялікай сямёркі" паабяцалі ў ліпені 1994 прадаставіць 800 мільёнаў долараў для таго, каб дапамагчы Украіне закрыць ЧАЭС. Аднак Кіеў лічыць, што сума будзе недастатковай, і заявіў, што не можа закрыць першы і трэці рэактары да таго чавсу, пакуль будуць створаны альтэрнатыўныя крыніцы энергіі. Другі рэактар будзе ўведзены ў дзеяньне ў 1996 годзе. Між тым, віцэ-прэм'ер Украіны І.Міцькоў паведаміў, што Украіна верне Эўрапейскаму Саюзу заём 1992 года ў 35 мільёнаў долараў, які быў выдадзены для набыцьця медыкаментаў.

Эўрапейскі Саюз у сярэдзіне лютага накіраваў ліст у Мінфін Украіны, патрабуючы выплат па крэдыту. Калі краіна гэта не зробіць, то пад пагрозу будзе пастаўлены новы крэдыт у 85 мільёнаў ЭКЮ (11 мільёнаў долараў) ад Эўрапейскага Саюзу.

**СІМ**

* * *

"Кітай, вон з Тыбета!", "Выратуйце Тыбет!", "Мы - за канферэнцыю ААН па кітайска-тыбецкіх адносінах!" - пад такімі лозунгамі 10 сакавіка прайшоў пікет ля кітайскага пасольства ў Кіеве. Акцыю арганізавала Радыкальная партыя.

Пікет адбыўся, нягледзячы на спробы аховы пасольства перашкодзіць яго правядзеньню. Удзельнікі акцыі перадалі прадстаўніку КНР на Украіне ліст, адрасаваны Старшыні Дзяржсавета КНР Цьзянь Цьзэміню.

**(Э.-Х.)**

# РАСЕЯ

Дэлегацыя дэпутатаў германскага парламенту Бундэстаг заяўляе, што будзе "актыўна змагацца супраць прыняцьця Расеі ў Савет Эўропы". Такая пазіцыя дэпутатаў зьвязана з паўстаўшым у іх падчас паездкі ў Чачню і Інгушэцію перакананьнем, што адказнасьць за ўзьнікненьне ўзброенага канфлікту ў Чачні ляжыць на расейскім урадзе.

Да таго ж, члены дэлегацыі паведамілі на канферэнцыі, якая адбылася ў памяшканьні таварыства "Мемарыял", што яны маюць намер узьняць у Бундэстагу пытаньне аб прымяненьні супраць Расеі эканамічных санкцый.

* * *

Дзяржаўная Дума Расеі прыняла рашэньне аб зьняцьці з паста ўпаўнаважанага па правах чалавека Расейскай Федэрацыі Сяргея Кавалёва.

Рашэньне было прынята "дзякуючы" захадам лідэра Расейскага агульнанароднага саюза Сяргея Бабурына..

**(Э.-Х.)**

## БЕЛАРУСЬ ІМКНЕЦЦА Ў ГПТГ

Падчас візіту беларускай дэлегацыі ў Брусэль, Эўрапейскі Саюз паабяцаў зьдзейсьніць Беларусі існую дапамогу на шляху ўступленьня ва ўсесьветную гандлёвую арганізацыю Генеральнае пагадненьне па тарыфах і гандлю ГПТГ

Як паведаміў міністр зьнешнеэканамічных сувязяў Беларусі М.Марыніч, у красавіку пройдзе чарговы раунд перамоў. "Аднак уступіць у ГПТГ Беларусь зможа не раней, чым праз паўтары гады, з-за праацягласьцей механізма далучэньня", - зазначыў спадар Марыніч.

## ІРАН КУПІЦЬ БЕЛАРУСКУЮ ЗБРОЮ

Напачатку другой дэкады сакавіка прэм'ер-міністр Беларусі М.Чыгір накіраваўся ў Іран. Як стала вядома карэспандэнту з колаў блізкіх да кіраўніцтва Кабінета Міністраў, у Тэгеране спадар Чыгір мае намер абмеркаваць з іранскім кіраўніцтвам пытаньне паставак беларускай зброі, што засталася пасьля прыпыненьня Менскам выкананьня дамовы аб скарачэньні звычайных узброеных сіл у Эўропе.

**СІМ**

 

